# Голас Радзімы

№ 9 (2099)
2 сакавіка 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.







Растуць, добраўпарадкоўваюцца нашы вёскі. Усё часцей сустракаюцца ў іх гарадскія абрысы, і адначасова становіцца больш тонкай нітачка памяці, якая звязвае іх з сёламі мінулых гадоў. Аднавіць важныя складаемыя нацыянальнай спадчыны — дзе і як жылі і працавалі нашы дзяды і прадзеды—ужо больш дзесяці гадоў дапамагае спецыяльная рабочая група Міністэрства культуры рэспублікі. Нядаўна тое, што сабраў або і вярнуў да жыцця калектыў яе навуковых супрацоўнікаў, рэстаўратараў, мастакоў і рабочых, атрымала новы высокі статус — Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і быту.

Месца для музея пад адкрытым небам выбралі недалёка ад Мінска ў пойме ракі Пціч, каля вёсак Строчыца і [illegible]ярцо. Экспазіцыя яго складваецца з фрагментаў вё[illegible]алоўных гісторыка - этнаграфічных рэгіёнаў рэспублікі. Распрацаваны планы і чарцяжы трох «залаў» — Палесся, Усходняга Палесся і Панямоння. А тыя, дзе размясціліся помнікі драўлянай архітэктуры і быту жыхароў Цэнтральнай Беларусі, Паазер'я і Падняпроўя, ужо прымаюць наведвальнікаў, якіх тут чакае многа цікавага.

[illegible]ЗДЫМКАХ: з новымі паступленнямі працуюць на[illegible]ыя супрацоўнікі аддзела фондаў Т. ВАШКЕВІЧ і М. АЗОНЧЫК; прадметы сельскага быту; уніяцкая царква на тэрыторыі музейнай экспазіцыі Цэнтральнай Беларусі.



КАСМІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

## «МІР»: ТРЫ ГАДЫ НА АРБІЦЕ

На працягу трох гадоў на калязямнай арбіце знаходзіцца навуковая станцыя «Мір». За гэты перыяд на яе борце працавалі экіпажы трох асноўных і чатырох экспедыцый наведання з удзелам касманаўтаў Сірыі, Балгарыі, Афганістана і Францыі. Ажыццёўлены самы працяглы ў гісторыі палёт савецкіх касманаўтаў Уладзіміра Цітова і Мусы Манарава — адзін год.

Цяпер на борце навукова-даследчага комплексу «Мір», які апошнія два гады функцыяніруе ў няспынным пілатуемым рэжыме, працуе экіпаж чацвёртай асноўнай экспедыцыі: касманаўты Аляксандр Волкаў, Сяргей Крыкалёў і Валерый Палякоў.

Па праграме даследавання прыродных рэсурсаў Зямлі і вывучэння навакольнага асяроддзя запланавана здымка асобных раёнаў паўднёвай часткі еўрапейскай тэрыторыі краіны. Гэтыя эксперыменты праводзяцца для атрымання даных аб стане азімых пасеваў.

Намечана правесці некалькі серый астрафізічных эксперыментаў у рамках міжнароднага праекта «Рэнтген».

Запланаваны таксама прафілактычныя работы па тэхнічнаму абслугоўванню абсталявання і прыбораў базавага блока.

## ФОБАС У АБ'ЕКТЫВАХ «ФОБАСА»

Аўтаматычная міжпланетная станцыя «Фобас», якая працягвае палёт вакол Марса, перадала на Зямлю першыя адлюстраванні прыроднага спадарожніка планеты Фобас.

18 лютага станцыя была пераведзена на новую, блізкую да кругавой, арбіту назірання з радыусам, што на 300 кіламетраў перавышае радыус арбіты Фобаса. З арбіты назірання трое сутак працягваліся даследаванні атмасферы Марса, яго паверхні і каляпланетнай прасторы.

21 лютага, калі касмічны апарат знаходзіўся на аддаленні 860 і 1 130 кіламетраў ад гэтага нябеснага цела, быў праведзены першы сеанс яго тэлевізійнай здымкі. Папярэдне па камандах бартавога кіруючага комплексу ў адпаведнасці з загадзя распрацаванай праграмай станцыя зрабіла развароты, неабходныя для навядзення на Фобас.

Высакаякаснае адлюстраванне Фобаса ў розных ракурсах зафіксавана на дзевяці тэлевізійных кадрах. Атрыманая ў сеансе відэаінфармацыя была запісана ў бартавое запамінальнае ўстройства і ў чарговым сеансе сувязі з Зямлёй перададзена ў Цэнтр кіравання палётам, дзе будзе выкарыстоўвацца для ўдакладнення параметраў руху Фобаса і касмічнага апарата з мэтай іх далейшага збліжэння.

Здымка Фобаса ажыццяўлялася з дапамогай тэлевізійнай апаратуры, распрацаванай сумесна спецыялістамі Савецкага Саюза, Народнай Рэспублікі Балгарыі і Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

З ДАПАМОГАЙ ІТАЛЬЯНЦАЎ



Асваенне больш прадукцыйнай і эканамічнай тэхналогіі безгрунтавога парашковага электрастатычнага эмаліравання дэталей пліт пачалі на брэсцкім заводзе «Газаапарат». Асноўныя работы па мантажу і наладцы закупленага за мяжой абсталявання вядуць спецыялісты італьянскай фірмы «Мелоне».

Агульны народнагаспадарчы эфект ад укаранення новай тэхналогіі ў многа разоў перакрые затраты. Штогод прадпрыемства будзе эканоміць каля мільёна рублёў.

НА ЗДЫМКУ: інжынер-электрамеханік фірмы «Мелоне» Луіджы БЕРЛІЧ (у цэнтры), намеснік галоўнага інжынера завода «Газаапарат» Дзмітрый ДУДКІН (злева) і майстар змены Мікалай КУЧУР у час абкаткі абсталявання.

«ДНІ ЖАЛЬБЫ»



«Дні жальбы» прайшлі ў Мінску 18—19 лютага і былі прысвечаны памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Людзі розных узростаў — і семнаццацігадовыя студэнты, і ветэраны, якія зведалі той цяжкі ў нашай гісторыі час не па кнігах, а па горкіх гадах асабістых трагедый і страт, — прыйшлі ў Палац культуры Белсаўпрофа, каб ушанаваць светлую памяць тых, хто, бязвінна гінучы, усё-такі верыў у сваю краіну, у свой народ і ў той час, што надышоў сёння, — час справядлівых перамен.

Прысутныя змаглі азнаёміцца з некалькімі выстаўкамі, дзе былі прадстаўлены сапраўдныя дакументы і фотадакументы, карціны з фонду Мастацкага музея БССР, што расказваюць аб горкіх лёсах людзей, трапіўшых у лавіну сталінскіх рэпрэсій. Публіцыстычнай і жыццесцвярджальнай была і выстаўка палітычнага плаката, прысвечаная гэтай тэме. Жывую цікавасць прысутных выклікалі экспазіцыя кніг з раней закрытых фондаў Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна, а таксама дэманстрацыя дакументальных фільмаў. Перад прысутнымі выступілі тыя, хто зведаў усе прыніжэнні і цяжар рэпрэсій. Сярод іх — пісьменнікі Максім Лужанін і Янка Скрыган, Станіслаў Шушкевіч і Павел Пруднікаў і іншыя.

Удзельнікі вечара зрабілі і першыя добраахвотныя ўзносы на рахунак № 702903 для ўзвядзення помніка ахвярам сталінізму ў Курапатах.

НА ЗДЫМКУ: узнос на будаўніцтва помніка ў Курапатах робяць пісьменніца Тамара ЦУЛУКІДЗЕ (злева) і Мая КЛЯШТОРНАЯ, дачка пісьменніка Тодара Кляшторнага, якія нямала зведалі ў гады сталінскіх рэпрэсій.

НА СЕСІІ ААН

## ВЫСТУПЛЕННЕ ПРАДСТАЎНІКА БССР

У Жэнеўскім палацы нацый працягвае работу 45-я сесія Камісіі ААН па правах чалавека. Выступаючы ў ходзе спрэчак, прадстаўнік Беларускай ССР С. Агурцоў заклікаў да павышэння рэзультатыўнасці і аўтарытэту камісіі, да ўмацавання яе ролі ў якасці вядучага форуму па абмену вопытам розных бакоў у справе забеспячэння ўсяго комплексу правоў чалавека.

Камісія па правах чалавека павінна ўносіць вялікі ўклад у развіццё гуманітарнага супрацоўніцтва, а таксама ў ліквідацыю старых стэрэатыпаў, якія зжылі сябе. Найбольш прымальнай формай міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне правоў чалавека з'яўляюцца пагадненні, якія накладваюць юрыдычныя абавязацельствы на ўсе дзяржавы, што ўдзельнічаюць у іх.

ДЗЕЛАВОЕ ПАРТНЁРСТВА

## АСВОІЛІ МІЖНАРОДНЫ РЫНАК

Аўтарытэт дзелавога партнёра ўсё больш набывае калектыў торфапрадпрыемства імя Даумана Шумілінскага раёна, што на Віцебшчыне. Перш за ўсё гэта выяўляецца ў бездакорным выкананні дагаворных абавязацельстваў па пастаўках і рэалізацыі прадукцыі.

У мінулым годзе невялікім прадпрыемствам «глыбінкі» выпушчана тавараў народнага спажывання на 635 тысяч рублёў. Асноўная прадукцыя карыстаецца нязменным попытам не толькі ў нашай краіне, але і за мяжой. Так, у ФРГ, Італію, Францыю і Аўстрыю было адгружана больш васьмі тысяч тон кіпаванага торфу.

СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ

## КАЛГАС КУПЛЯЕ КАМП'ЮТЭРЫ

Камп'ютэрная грамата... У тым, што яна спатрэбіцца сельскім працаўнікам, сумненняў няма. Але пра гэта думаецца як пра задачу заўтрашнюю, хутчэй за ўсё будучага ўжо стагоддзя. А вось у калгасе «Рассвет» імя К. Арлоўскага на Магілёўшчыне яе вырашэннем заняты сёння.

Калгас набыў два высакаякасныя персанальныя камп'ютэры распрацоўкі аўтарытэтнай амерыканскай фірмы «ІБМ», два робатроны. Асвойваць і выкарыстоўваць у розных сферах эфектыўную электронную тэхніку тутэйшым спецыялістам дапамагаюць супрацоўнікі Беларускага праектна-канструктарскага тэхналагічнага інстытута аўтаматызаваных сістэм кіравання Дзяржаграпрома БССР.

Камп'ютэрызацыя ахопіць не толькі славуты калгас. Нагадаем: ён цяпер уваходзіць у састаў аграфірмы «Рассвет». Шырокае выкарыстанне электроннай тэхнікі дасць немалую эканамічную выгаду. Плануецца ўсе калгасы-партнёры забяспечыць персанальнымі камп'ютэрамі, якія будуць аб'яднаны ў адзіную сістэму.

АХОВА РАСЛІН

## НАСЯКОМЫЯ СУПРАЦЬ... НАСЯКОМЫХ

На экалагічна чысты і абсалютна бясшкодны біялагічны метад аховы раслін ад шкоднікаў перайшлі на цяплічным камбінаце саўгаса «Гродзенская гароднінная фабрыка». Тут першымі ў вобласці поўнасцю адмовіліся ад прымянення для гэтай мэты пестыцыдаў.

Для развядзення карысных насякомых, якія замянілі іх, на цэнтральнай сядзібе гаспадаркі абсталявана лабараторыя, падрыхтаваны кадры. Механізм работы насякомых надзвычай просты: яны адшукваюць і знішчаюць шкоднікаў, выяўляючы «працаўніка» на самых ранніх этапах яго з'яўлення. Пры гэтым надзейнасць такой аховы значна вышэйшая, чым у ядахімікатаў, і практычна раўняецца ста працэнтам. Паўлітровага слоіка насякомых дастаткова для аховы раслін на плошчы тысяча квадратных метраў.

ЭКАЛОГІЯ

## МЫШАНКА СТАНЕ ЧЫСЦЕЙШАЙ

Прыток Шчары, рака Мышанка, якая працякае побач з Баранавічамі, атрымала гарантыю на ахову свайго басейна ад забруджвання прамысловымі і бытавымі сцёкамі прадпрыемстваў горада. Тут зданы ў эксплуатацыю новыя ачышчальныя збудаванні, якія могуць прапусціць у суткі да 65 тысяч кубаметраў забруджанай і адпрацаванай вады.

З укараненнем механічнага і біялагічнага спосабаў ачысткі ў некалькі разоў паменшылася забруджанасць вод, якія скідваюцца.

У ФОНД МІЛАСЭРНАСЦІ



Дабрачынная сустрэча на тэму «Духоўная культура і рэлігія» адбылася ў Мінску, у Рэспубліканскім Палацы прафсаюзаў. Удзел у ёй прынялі прадстаўнікі Беларускага аддзялення Савецкага фонду міласэрнасці і здароўя, Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры, духавенства, грамадскасць сталіцы. Харавая капэла Палаца культуры Белсаўпрофа і хор Маскоўскай духоўнай акадэміі і семінарыі далі канцэрт. 1000-годдзю хрышчэння Русі была прысвечана фотавыстаўка і слайдфільмы, якія паказваліся на сустрэчы.

НА ЗДЫМКУ: у час дабрачыннай сустрэчы.

ГАСПАДАРЛІВАСЦЬ

## ДАРЫ ПАЛЕССЯ

Нават зімой абедзенны стол рабочых Гарадзішчанскай фабрыкі школьнай мэблі багаты на свежую зеляніну, радыску і гародніну. Гэта заслуга створанага пры фабрыцы кааператыва «Дары Палесся». Памідоры, агуркі, зялёная цыбуля — усё гэта атрымліваецца з парнікоў і цяпліц, пабудаваных над цеплатрасай прадпрыемства. Фабрыка купіла і перадала ў арэнду кааператарам трактар з наборам прычапнога інвентару, грузавік, аўтафургон, на якім цытрусавыя ў абмен на беларускую бульбу прывозяць з поўдня.

Прадукцыя «Дароў Палесся» не ўтрымлівае ў сабе нітратаў, таму што маладыя гароднікі ўвогуле не прымяняюць мінеральных угнаенняў.

Летам, расказвае старшыня «Дароў Палесся» Міхаіл Лавор, мы маем намер стварыць сваю жывёлагадоўчую ферму. На сто вулляў расшырыцца пасека. А мёд — гэта валюта. Яе мы думаем зарабляць для фабрыкі праз пасрэдніцкую фірму ў Польшчы, якая прадае нашу мэблю ў Англіі і ФРГ. Пачнём прадаваць сухія белыя грыбы і ліва для камінаў, якое будзем выраблязь з адходаў асноўнай вытворчасці.

## Т. ДУДКО—КАНДЫДАТ У НАРОДНЫЯ ДЭПУТАТЫ СССР

# ДАР—ЛЮБІЦЬ ЧАЛАВЕКА

**26 сакавіка — выбары ў народныя дэпутаты СССР. Па ўсёй краіне прайшло вылучэнне кандыдатаў. Што змянілася ў параўнанні з папярэднімі выбарамі? Перш за ўсё тое, што вылучалі сваіх кандыдатаў у народныя дэпутаты самі працоўныя калектывы і выбаршчыкі па месцу пражывання без усякай рэгламентацыі і рэкамендацый «зверху», як гэта рабілася ў недалёкім мінулым. Папярэдне кандыдатуры абмяркоўваліся на рабочых сходах нізавых вытворчых падраздзяленняў, і толькі потым найбольш дастойных, аўтарытэтных таварышы рэкамендавалі для разгляду на сходзе працоўнага калектыву.**

**Аб адным з такіх кандыдатаў і расказвае журналіст Наталля БУЛДЫК.**

«Жаночых» праблем не існуе!» — так лічыць мінчанка Тамара Дудко, якая вось ужо год узначальвае гарадскі жансавет, змагаецца за тое, каб жанчынам паляпшалі ўмовы працы, быту, каб на ўсіх узроўнях да іх ставіліся з павагай і любоўю, і імі ж, жанчынамі, вылучаная кандыдатам у народныя дэпутаты СССР.

— Супярэчнасцяў тут няма,— тлумачыць яна. — «Жаночых» праблем сапраўды не існуе, паколькі любая з іх — гэта праблема ўсяго грамадства. Калі маці няма часу выхоўваць дзіця, ці падарвана яе здароўе на шкоднай вытворчасці, ці яна вымушана штодзённа па дзве гадзіны стаяць у чэргах, — хіба ўсё гэта не адбіваецца на ўсіх нас, хіба толькі жанчына пакутуе?.. У праграме, якую вылучаю, я акцэнтую ўвагу перш за ўсё менавіта на гэтым: «жаночыя пытанні» нельга перакладваць толькі на жансаветы, вырашаць іх абавязаны ўсе: дзяржава, прафсаюзы, прадпрыемствы... І заняцца гэтым трэба сур'ёзна і як мага хутчэй: нават самыя моцныя з нас пачынаюць стамляцца ад папяровага раўнапраўя. Не проста юрыдычна роўныя з мужчынамі правы нам патрэбны (успомніце: мы ж іншыя!), а сапраўдныя і поўныя правы, прычым якія ўлічваюць і жаночую псіхалогію, і фізіялогію, і нашу цяжкую і цудоўную долю маці, але ў той жа час і наша нежаданне замыкацца ў чатырох сценах, што, зрэшты, і немагчыма, калі больш палавіны занятых у народнай гаспадарцы — жанчыны...

Праграме, якую вылучае Т. Дудко, я магла б прысвяціць шмат старонак: настолькі яна вялікая. Але хочацца прадставіць і саму Тамару Мікалаеўну. Хаця б таму, што старшыня Партызанскага райвыканкома Мінска зусім не падобная на намі ж, журналістамі, створаны вобраз жанчыны-кіраўніка. Мяккі позірк светлых вачэй, ніякай катэгарычнасці ў голасе, наадварот. часам бываюць ноткі сумнення: маўляў, ці маю я рацыю, падкажыце. І сукенка, і прычоска, праўда, дастаткова строгія (пасада ўсё ж абавязвае да стрыманасці ва ўборах), але яны, як добра падабраная рама для карціны, толькі яшчэ больш адцяняюць яе пяшчоту і жаноцкасць.

Райвыканкомам яна ўзначальвае ўсяго два гады гэтага працавала на вытворчасці, прыступка за прыступкай узнімаючыся ўверх — ад работніцы да генеральнага дырэктара аб'яднання з шасці прадпрыемстваў па выпуску безалкагольных напіткаў. Кар'ерай абавязана выключна сабе самой — сваёй працаздольнасці, пастаяннай вучобе (тэхнікум, інстытут — усё завочна, «без адрыву» ад двух дзетак) і... няўменню быць абыякавай да людзей, да таго, у якіх умовах яны працуюць і жывуць. Уласна кажучы, гэта апошняя акалічнасць, відаць, і адыграла галоўную ролю ў тым, што Дудко спачатку выбралі дэпутатам, а затым яна стала і старшынёй райвыканкома, па сутнасці, гаспадыняй вялікага раёна, у якім 125 тысяч жыхароў і такія буйныя прадпрыемствы, як трактарны і маторны заводы.

Можна прывесці нямала прыкладаў таго, як яна кіруе раёнам, назваць лічбы і факты, што сведчаць: і з гэтым Дудко спраўляецца вельмі нядрэнна. Але мне больш важнымі паказаліся словы тых людзей, якія жывуць у Партызанскім раёне і якіх я сустрэла ў прыёмнай старшыні. «Не дарэмна мы за яе галасавалі, — сказала інжынер А. Струкава. — Ёй да ўсяго ёсць справа, міма непарадку абыякава не пройдзе...» Пенсіянер І. Смірноў адзначыў яе дабрыню і ўвагу: «Мяне, старога, даўно ўжо так ад душы і родныя дзеці не слухалі — з такім спачуваннем!» А сакратар, Л. Папок, якая працуе ў прыёмнай Дудко, сказала так: «Я тут дванаццаць гадоў, але ўпершыню бачу, каб чалавек, атрымаўшы адмову ў сваёй просьбе, выходзіў бы з кабінета... задаволены! Гавораць: ад размоў з ёю душа адтайвае...» Але самую ёмістую характарыстыку даў старшыня аднаго з мінскіх кааператываў А. Нікулін: «Ёй дадзены асобы дар — яна ўмее любіць людзей».

І гэта сапраўды так, хаця Т. Дудко жыць з-за гэтага вельмі няпроста. Многія свае ўчынкі яна вымушана ўтойваць, таму што, на думку некаторых, кіраўнік не мае права займацца «дабрачыннасцю». Напрыклад, некаму здаецца заганным, што яна шэфствуе над адным з класаў школы-інтэрната для сірот: прыходзіць да іх па вечарах, у святы, гадзінамі пра нешта гутарыць. «Чуў, што яны нават дома ў яе бывалі! — з абурэннем гаварыў адзін з педагогаў. — Хіба гэта можна? Была б яна не кіраўніком раёна, а звычайнай жанчынай — справа іншая!»

Што злачыннага ўгледзелі ў дружбе Дудко з сіротамі, невядома. Але апраўдвацца ёй тым не менш даводзіцца. Як і наконт з'едлівага жарту тыпу: «Да вас на прыём рвуцца таму, што не ў кожным жа кабінеце грошы раздаюць!» Гэта намёк ужо на другую гісторыю, на дапамогу трапіўшаму ў бяду хлопцу, які воляю лёсу (дакладней — няўвагі людзей) апынуўся без дакументаў, без даху над галавой, без працы і без капейкі грошай. Нехта параіў звярнуцца да Дудко. І тая адразу ж дапамагла: угаварыла Дзіму К. пазычыць у яе грошы, дабілася ў кароткі тэрмін выдачы яму новага пашпарту, уладкавала на завод, дзе яго пасялілі ў інтэрнат, выдзелілі матэрыяльную дапамогу.

Падобных прыкладаў можна прывесці многа. Як кожны вечар бегала яна ў бальніцу, каб аднесці булён і хоць паўгадзіны пасядзець з цяжка хворай дзяўчынкай-сіратой. Ратавала падлетка, які ўцягнуўся ў наркотыкі, застаўшыся практычна адзінай, хто яшчэ верыў хлопцу. Як дапамагла некалькім энтузіястам, якія стварылі кааператыў, прыбытак ад якога [illegible] перш за ўсё на работу з так званымі цяжкімі падлеткамі, што атрымалі магчымасць займацца спортам...

Можна сказаць, з такіх учынкаў складваецца ўсё яе жыццё, хаця, прызнаюся, ніяк не магу зразумець, як на ўсё гэта хапае ёй часу і сіл. Тым больш, што ёсць свая сям'я — муж і двое ўжо дарослых, праўда, дзяцей. «Як ні дзіўна, але мы іншы раз бачым нашу маму, — жартуе 20-гадовая Надзя. Але потым дадае сур'ёзна: — Нам, вядома, хацелася б бываць разам з ёю часцей, але мама не можа жыць інакш: калі яе клічуць на дапамогу, яна абавязкова павінна прыйсці, калі ведае, што камусьці дрэнна, абавязкова імкнецца дапамагчы. І нам гэта падабаецца, мы захапляемся ёю».

Сама ж Дудко нічога асаблівага ні ў сваім жыцці, ні ў сваіх учынках не бачыць. Яны для яе, мяркуючы па ўсім, натуральныя, як паветра: калі яго няма, то і не дыхаеш, не жывеш. Вось таму і здзівілася, калі жанчыны вылучылі яе кандыдатам у народныя дэпутаты, усё гаварыла: «Ды хіба я самая дастойная?», усё сумнявалася: «Ды ці хопіць у мяне ведаў, вопыту, сіл?»

Зрэшты, доўга пакутаваць ад сумненняў ёй не давялося: як заўсёды, раздаўся званок, некаму зноў спатрэбілася яе дапамога — і яна некуды паімчалася. А я шчыра парадавалася за тых, з кім яна цяпер побач, каго зараз слухае — не па пасадзе, а па сэрцу, усёй душой. І яшчэ ўспомніла вядомыя словы, якія так любіць Т. Дудко, па якіх яна жыве: «Не бойся ворагаў сваіх, самае горшае, што яны могуць, гэта забіць; не бойся сяброў сваіх, самае горшае, што яны могуць, — здрадзіць; бойся раўнадушных, гэта з-за іх чыняцца ўсе злачынствы і забойствы». Т. Дудко не проста баіцца раўнадушша, яна жыве так, каб яго зусім не было...

## *ІНЖЫНЕРНАЯ АХОВА ЗЯМЛІ*

# СТВАРАЕЦЦА ЗАКАЗНІК «МАЗЫРСКІЯ ЛАГЧЫНЫ»

Урад Беларусі прыняў Пастанову аб стварэнні дзяржаўнага ландшафтнага заказніка «Мазырскія лагчыны». Мэта — захаваць унікальны прыродны комплекс з разнастайным рэльефам, дзе растуць каштоўныя ў навуковых і эстэтычных адносінах віды раслін, некаторыя з якіх занесены ў Чырвоную кнігу Беларускай ССР. Плошча заказніка — больш за тысячу гектараў.

Непаўторны рэльеф стварыла прырода на гэтай старажытнай зямлі. Над буйнейшай воднай артэрыяй беларускага Палесся — ракой Прыпяццю ўзвышаецца Мазырская града. У далёкія часы, як сведчаць паданні, тут былі непраходныя лясы. Але пазней, асабліва з развіццём капіталістычных адносін, тут сталі праводзіцца павальныя высечкі лясоў, участкі часта закідваліся і самааднаўляліся або пераходзілі пад пашу ці іншыя сельскагаспадарчыя ўгоддзі.

Значныя работы па асушэнню балот, праведзеныя вядомай Заходняй экспедыцыяй рускага вучонага-геадэзіста Іосіфа Жылінскага ў 1883—1898 гадах, будаўніцтва праз мазырскае Палессе чыгункі паміж Калінкавічамі і Оўручам у канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў прывялі да новых змен у гаспадарчай структуры рэгіёна. Ва ўмовах недахопу зямель актыўна пачаў выкарыстоўвацца пад ворыва любы ўчастак, свабодны ад лесу, і адначасова рэзка павялічыліся лесараспрацоўкі. Ды і ў апошні час, пачынаючы з 50-х гадоў, у гаспадарчай структуры адзначаны новыя, вельмі значныя змены. Яны звязаны з інтэнсіфікацыяй сельскай гаспадаркі, у выніку якой асвойваюцца новыя буйныя плошчы на асушаных тарфяніках. Значныя тэрыторыі лесу і сельскагаспадарчых угоддзяў адводзяцца пад прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва, кар'еры. Такі сапраўдны наступ на прыроду Палесся, натуральна, вядзе да негатыўных працэсаў, і асабліва адчувальным становіцца разбурэнне зямель воднай эрозіяй на схілах Мазырскай грады: глыбіня ўразання эразійных сістэм даходзіць тут да 40-60 метраў.

Такое становішча занепакоіла беларускіх вучоных. Група супрацоўнікаў Інстытута геахіміі і геафізікі Акадэміі навук Беларусі пад кіраўніцтвам доктара геолагамінералагічных навук Аляксея Матвеева прысвяціла некалькі гадоў дэталёваму даследаванню геалагічных працэсаў на тэрыторыі Мазырскай грады і дала канкрэтныя рэкамендацыі па рацыянальнай арганізацыі аховы гэтай тэрыторыі.

Важнейшая састаўная частка распрацаваных мер такой аховы — стварэнне запаведніка «Мазырскія лагчыны». Гэты своеасаблівы ландшафтны лагчынна-вышынны комплекс, унікальны ў маштабе рэспублікі і тым больш — для астатняй раўніннай часткі Палескай нізіны з асаблівасцямі яе расліннага свету, наяўнасцю рэдкіх, знікаючых і гаспадарча-карысных відаў раслін рознага геаграфічнага паходжання. Усяго тут расце 500 відаў раслін. Багатая флора Мазырскіх лагчын таксама рэдкімі відамі мохападобных і лішайнікаў. Разнастайны тут і жывёльны свет: асабліва шмат рэдкіх драпежных і пеўчых птушак, вавёрак, вожыкаў. Адным словам, Мазырскія лагчыны ўяўляюць сабой натуральны рэфігіум (прытулак), у якім захоўваюцца рэдкія рэліктавыя формы расліннага і жывёльнага свету.

Наяўнасць шэрагу каштоўных элементаў рэльефу, багацце расліннага і жывёльнага свету, археалагічныя і геолагамарфалагічныя помнікі прыроды робяць Мазыр і яго ваколіцы своеасаблівым запаведнікам, прыродным музеем. Вось чаму далейшае развіццё Мазыра і яго ваколіц мэтазгодна ажыццяўляць у напрамку стварэння тут буйнога рэспубліканскага, усесаюзнага, а ў далейшым і міжнароднага турызму. У значнай меры гэтаму будуць садзейнічаць багатыя рэкрэацыйныя рэсурсы — вялікія пясчаныя пляжы на берагах Прыпяці і лясныя масівы ў пойме і на тэрасах яе левабярэжжа. Адсюль, з высокіх пунктаў Мазырскай грады, адкрываецца маляўнічы від на даліну Прыпяці і славутыя «палескія дзюны».

Блакітныя далячыні лясных масіваў, жоўтыя пясчаныя берагі, водмелі і дзюны, велізарныя зялёныя дываны пойменных лугоў, чырванаватыя тоны вербавых зараснікаў, цёмная стужка ракі — усё, што знаходзіцца на плоскасці Палескай нізіны, арыгінальна спалучаецца з узвышшамі рэльефу Мазыра і пакідае яркае ўражанне аб ваколіцах аднаго з найпрыгажэйшых гарадоў рэспублікі.

Землекарыстальнікамі на тэрыторыі заказніка сталі Дзяржлесфонд, Дзяржземфонд і калгас імя Калініна. На землях Дзяржлесфонду праведзены ўжо значныя работы па аблясенню і замацаванню лагчын. Тут ствараюцца экалагічныя сцежкі, дэндрарый і батанічны сад. Гэта ўзбагаціць мясцовую флору і фауну, дазволіць захаваць цікавы жывёльны і раслінны свет.

Архітэктарамі і інжынерамі Беларускага навукова - даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва выканана дэталёвая распрацоўка добраўпарадкавання, санітарнай ачысткі, замацавання і захавання ў натуральным выглядзе існуючай у запаведнай зоне лагчынна-вышыннай сеткі. Зараз удасканальваецца планіровачная структура Мазыра. Як горад-запаведнік, горад-музей, ён павінен быць максімальна прыстасаваны да асаблівасцей мясцовага рэльефу і мець спрыяльнае для адпачынку асяроддзе. Невялікія ўчасткі ворыва калгаса імя Калініна, якія падвяргаюцца эразійным працэсам, прапануецца перавесці ў сенажаці.

Пры гэтым па межах лагчын ствараюцца лясныя палосы шырынёй 50-100 метраў. Значыць, зямля будзе выкарыстоўвацца, але не разбурацца.

Менавіта гэтак жа не выключаюцца з гаспадарчага карыстання і плошчы гарадскіх лагчын. Іх днішчы могуць служыць натуральнымі цыркамі для наладжвання зялёных тэатраў, спартыўных пляцовак пры ўмове замацавання схілаў дрэвамі, кустоўем і травамі, устойлівымі да эразійных і рэкрэацыйных уздзеянняў. На асобных схілах можна ўзводзіць будынкі ў адпаведнасці з існуючымі экалагічна выпрабаванымі тыпавымі праектамі для горнай мясцовасці, а таксама будаваць дэкаратыўныя пешаходныя масцікі, фунікулёры і віядукі.

Назіранні за станам і сучаснай дынамікай рэльефу Мазырскай грады, гэтай унікальнай мясцовасці Беларусі, яе флорай і фаунай, узялі на сябе супрацоўнікі інстытутаў геахіміі і геафізікі, эксперыментальнай батанікі Акадэміі навук Беларусі.

**Мікалай КУЧУК,**
**галоўны інжынер праектаў Беларускага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва.**
**Аляксандр ПАЎЛОЎСКІ,**
**навуковы супрацоўнік Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР.**



**Калектыў Магілёўскага аддзялення Інстытута фізікі АН БССР плённа распрацоўвае праблемы оптыкі, спектраскапіі і інфарматыкі. Фундаментальныя даследаванні праходзяць тут у межах рэспубліканскіх комплексных праграм.**

**Шмат увагі ўдзяляюць у інстытуце навукова-тэхнічнаму супрацоўніцтву з прадпрыемствамі і арганізацыямі. Адным з прыкладаў сумеснага пошуку з'яўляецца ўльтрагукавы апарат для лячэння касцей, паспяхова ўкаранёны ў дзіцячым аддзяленні абласной бальніцы. Разам з медыкамі арганізавана навукова-пошукавая работа па распрацоўцы і вырабу плазменнага скальпеля, вывучаюцца магчымасці ЭВМ у даследаванні мозгу.**

**Зусім нядаўна пра плазменнае ўзмацненне інструмента можна было прачытаць у творах фантастаў. Сёння такі метад вучоныя распрацоўваюць па заказу вытворчага аб'яднання «Хімвалакно». Для другога буйнога партнёра — вытворчага аб'яднання «Бабруйскшына» — вучоныя шукаюць шляхі далейшага павышэння прадукцыйнасці працы праз укараненне ў цэхах разнастайных аптычных прыстасаванняў. Значны эканамічны эфект атрымліваюць гаспадаркі Магілёўскай вобласці ад супрацоўніцтва з навукоўцамі. Толькі за два апошнія гады ён перавысіў 1,2 мільёна рублёў. Агульныя затраты прадпрыемстваў пры гэтым склалі менш як 33 тысячы рублёў. Такі плён узаемадзеяння навукі і вытворчасці.**

**НА ЗДЫМКАХ: дослед рыхтуюць навуковыя супрацоўнікі лабараторыі імпульснай оптыкі браты Уладзімір і Мікалай МІНКОВІЧЫ; звышмініяцюрны валакністы светавод—адна з апошніх распрацовак інстытута.**

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**



*ДУМКІ І РАЗВАЖАННІ А. БЯЛОВА—МАРАПЛАЎЦА-КРУГАСВЕТНІКА І НАШАГА СУАЙЧЫННІКА*

# НА ШЛЯХУ ДА ІДЭАЛЬНАГА ГРАМАДСТВА

**Алейша БЯЛОЎ: «Жыву ў Бразіліі ў горадзе Сальвадоры, выхадзец з рускай сям'і, 45 гадоў. Інжынер-партавік па прафесіі. Двойчы праплыў у адзіночку вакол свету на парусной яхце. Аб тым падарожжы напісаў кнігу. Для яе прагу хачу сабраць матэрыял аб перабудове на маёй Радзіме ў СССР. Маю дзяцей. Вось і ўся біяграфія...».**

На супервокладцы першай яго кніжкі «Падарожжа вакол свету ў адзіночку» (выдавецтва «Нордыка») ёсць радкі аб тым, што Алейшу Бялову прысвоена ганаровае званне першага бразільскага мараплаўца-кругасветніка. Я прачытаў яе пасля ад'езду Алейшы з Мінска, дзе ён некалькі восеньскіх дзён быў госцем Беларускага таварыства «Радзіма». Не збіраючыся строіць з сябе літаратурнага крытыка, тым не меней адзначу, што хоць ёсць, на маю думку, у тым дзённіку марскога вандроўніка некаторыя мастацкія хібы, нарадзіўся ён пад пяром філосафа, рамантыка, які прагне шчырасці і справядлівасці. Часам Бялоў-пісьменнік здаваўся мне больш зразумелым, чым Бялоў-субяседнік.

Аднак не аб нашых дыскусіях я маюся гаварыць. Каб надаць маім нататкам большую пераканаўчасць і аб'ектыўнасць, я дазволю сабе звярнуцца да разважанняў Бялова-пісьменніка, прыводзячы вытрымкі з яго кнігі.

Добрым дапаўненнем да тытула «Першы бразільскі падарожнік-кругасветнік» было б званне першага суайчынніка, які адзін на лодцы двойчы абагнуў зямны шар.

Найпершае, што можа падумаць чалавек, прачытаўшы гэтыя словы: «Якая адчайная смеласць!»

— І ўсё ж не гэта галоўнае, — запярэчыў Алейша. — У першую чаргу неабходны дасканалая тэхніка, абсталяванне, якасць канструкцыі яхты, твае веды, вера ў тое, што ты зробіш сваімі рукамі.

...Адысея Бяловых пачаткам сваім выходзіць з далёкага 1943 года, калі да перамогі над фашызмам заставаліся яшчэ два бясконца доўгія гады; з украінскай вёскі Мярэфа, дзе ў сям'і рускага агранома нарадзіўся сын, тады яшчэ Алёшка. Сям'я пакінула дом у тым жа 43-м, і ветразі лёсу панеслі яе ў заакіянскую Бразілію. Бабуля, якая і назву гэтую мудрагелістую выгаварыць не магла, на развітанне падарыла сямімесячнаму ўнучку вялікую лыжку... І развіталася з ім назаўжды.

**Бялоў-пісьменнік: «У час вайны пачаліся нашыя бадзянні як сапраўдных ізгояў. Я не хачу больш паўтараць лёс маіх бацькоў, не хачу, каб гэтая доля напаткала маіх дзяцей».**

Не вельмі лёгка прыжываліся Бяловы да чужой зямлі. Бацька працаваў аграномам на фазэндзе ў багатага латыфундыста. Жыць уладкаваліся ў падвале пад домам гаспадара. Бялоў-старэйшы нечым не дагадзіў патрону, і кантракт быў пераваны. Не даўшы часу на пошукі якогасьці прытулку, гаспадары выкінулі сям'ю Бяловых разам з іх жабрацкім скарбам на вуліцу. У дзіцячай памяці Алейшы вечным стоп-кадрам і пытальнікам застыне імгненне: кухонная шафа вылятае старчма на асфальт, а праз разбітыя дзверцы са звонам сыплецца посуд... Звон прыніжэння і знявагі. Імгненне застыне і выгравіруецца ў свядомасці сына імігранта жыццёвым крэда Бялова-пісьменніка і чалавека: «Няспынная барацьба супраць несправядлівасці, супраць багатых і валадарных».

На шчасце, з цягам часу бацька змяніў сельскія палеткі на кафедру ва універсітэце, чым грунтоўна паправіў растрапаны блуканнямі човен сямейнага дабрабыту і здолеў даць дзецям вышэйшую адукацыю.

Аднак, відаць, у кожнага чалавека, можа ў юнацтве, можа ў сталым узросце прачынаецца цяга да нязздзейсненага, надзея на тое, што яно адкажа на пытанні: «Які сэнс жыцця? Навошта чалавеку праца, каханне?»

Калі Алей[illegible]інула 22, сябар падарыў яму, чалавеку, які нават не ўмеў плаваць, маску для падводнага плавання. Хараство царства Нептуна і празрыстая бязважкасць ашаламілі яго. Адтуль нібы пачуўся яму кліч мора і мары. Нептуну ўдзячны ён за ідэю кругасветнага падарожжа.

— Яна так [illegible]е захапіла, што я махнуў рукою на карнавалы, самбу, нават на вучобу. (Дзякуй бацьку, не дазволіў сатварыць глупства). Пятнаццаць гадоў я адмаўляў сабе ў элементарным, ашчаджаў грошы. Увесь вольны час праводзіў на верфі. Сваімі рукамі майстраваў парусную яхту. Вучыўся, атрымаў дыплом капітана-аматара, радавым матросам парусніка перасек Атлантыку з Сальвадора ў Кейптаун.

Нарэшце ў 1980 годзе 37-гадовы капітан, ён жа адзіны член каманды парусной яхты «Тры Марыі», адчаліць ад гарадскога дэбаркадэра насустрач небяспекам. Курс—цэлы свет. Прычаліць праз 14 месяцаў. Мясцовая газета напіша аб ім: «Рэлігія Бялова — мора. Ён верыць толькі ў сілу розуму, у прыроду, у інтэлектуальную энергію чалавека».

У адкрытым моры часам турбавала здрадніцкае «навошта». Яго ж, як вопытнага інжынера-вадалаза, чакалі выгадныя дзелавыя кантракты, сям'я, стары бацька...

**Бялоў-пісьменнік: «Калі не мець ідэала, за які гатоў аддаць жыццё, яно нічога не вартае».**

Ёсць ідэал, здзейсненая мара, званне першага, нарэшце, кніга. А не аўтар застаўся незадаволеным. У час вандраванняў бабуліна лыжка-талісман заўсёды была з ім, нагадваючы бацькоў і нешта вялікае, да таго часу не пазнанае, што стала за іх і ягоным лёсам.

— Я выходзіў на бераг многіх краін, знаёмы з сотнямі людзей, а неяк убаку застаўся край, дзе нарадзіўся, які ведаў я прачытанага ды са слёз бацькоў. Не паехаць туды я не мог.

Кліч продкаў вывеў у другое кругасветнае падарожжа на пошукі сваіх каранёў.

— У Міжземным моры мяне напаткала зіма, — расказваў госць.—Іншага выйсця, як пакінуць яхту на Кіпры і ляцець на Радзіму, не заставалася.

— Другое падарожжа, відаць, больш узбагаціла вас як пісьменніка?

— Безумоўна. Я прывёз сюды аўтарскі экземпляр кнігі на 2 500 старонак з трыма часткамі: «Пошук Усходу», «Пошук сваіх каранёў», «Вяртанне дамоў». Другую частку амаль што цалкам прысвяціў Радзіме. Ды, на жаль, за той тыдзень, што я правёў у родным сяле, мала што ўдалося пагледзець. А пісаць сёння аб СССР і не гаварыць аб перабудове — значыць, марна псаваць паперу. Вось чаму я вырашыў вярнуцца зноў, на гэты раз пасажырам «Аэрафлоту». Хацелася зразумець, дайсці сваім розумам, што такое перабудова, якія вынікі дасягнуты ў Беларусі, рэспубліцы, якая столькі гора перанесла ў вайну, як разумее сваю ролю ў правядзенні рэформ просты чалавек, а як кіраўнік, якія правы маюць гэтыя дзве катэгорыі людзей.

**Бялоў-пісьменнік: «Законы Бразіліі такія несправядлівыя, састаўляюцца тымі, хто наверсе, для тых, хто ўнізе... Бразільскі народ нараджаецца бяспраўным, толькі з правам на дарогу, па якой пляцецца босы, у галечы».**

З дапамогаю Беларус[illegible] таварыства «Радзіма» Алейша Бялоў [illegible]укаў адказы на свае пытанні. Напрыклад, у калгасе імя І. Войкава, што знаходзіцца непадалёку ад сталіцы Беларусі.

— Яшчэ пакуль рана [illegible]арыць, што наша гаспадарка багата[illegible] ярэдняя, — уводзіў нашага суайчынн[illegible] з Бразіліі ў курс справы старшыня калгаса Валянцін Стыдзель. — Але мы досыць трывала стаім на зямлі: чысты даход калгаса ў 1987 годзе склаў 1 мільён 700 тысяч рублёў. 800 калгаснікаў з 14 сучасных вёсак займаюцца земляробствам, жывёлагадоўляй. Маем сваю звераферму. Але ёсць і праблемы: гаспадарыць экстэнсіўнымі метадамі нельга, «свабодных» угоддзяў пад рукою няма. Трэба з найбольшай прадукцыйнасцю выкарыстоўваць тую зямлю, якую маем, грунтуючыся на гаспадарчым разліку, брыгадным падрадзе. Гэта самы перспектыўны шлях, які дапаможа нам намнога лепш вырашыць галоўную задачу: забяспечыць людзей прадуктамі харчавання.

**Бялоў-пісьменнік: «...Яна [зямля Бразіліі — К.Ш.] знаходзіцца ў руках меншасці, якая садзіць і сее вельмі мала, без выкарыстання тэхнікі, а атрымлівае прыбытак, альбо раз-пораз паніжаючы заработак сельскагаспадарчага рабочага, альбо здае ўчасткі ў арэнду, якія затым апрацоўваюцца толькі напалову. Рэшта ж абгароджваецца дротам і — гатова. Ніхто не зойдзе, ніхто не пасее, а па той бок агароджы беспрацоўе і галеча лічацца натуральным законам жыцця».**

— Скажыце, а як калгас вырашае сацыяльныя праблемы сваіх працаўнікоў? — запытаў Алейша Бялоў.

— Запрашаю вас на невялікую экскурсію па калгаснай сядзібе.

У якасці ўступу скажу, што калгас збудаваў Дом быту з пральняй, швейнай майстэрняй, цырульняй, лазняй. Ёсць дзіцячы сад на 140 месцаў. Калі ласка...

І калі калгас імя І. Войкава першынства ў агракультуры не трымае, дык Мінскі трактарны завод, наадварот, — флагман сельскагаспадарчай індустрыі. Больш трыццаці тысяч яго працаўнікоў вырабляюць сусветна вядомы трактар «Беларусь». Прадукцыя завода, акрамя задавальнення патрэбы айчыннага рынку, экспартуецца амаль у 80 краін свету. З яго новымі цэхамі, сучасным абсталяваннем, тымі, хто на ім працуе, і пазнаёміўся пісьменнік з Бразіліі.

Перапыніўшы хлопца ў рабочай спяцоўцы, Алейша Бялоў звярнуўся да яго з пытаннем:

— Якая твая мэта ў жыцці?

— Працаваць... Вучуся на вячэрнім аддзяленні інстытута, — быў адказ.

— У чым ты бачыш сэнс перабудовы?

— Каб лепш жылося людзям...

Госць слухаў рабочага і, мне здалося, нешта пільна шукаў на яго твары. Потым растлумачыў:

— У Бразіліі цяжкае эканамічнае становішча. Толькі непісьменных налічваецца каля 80 працэнтаў. Вялікая і дыспрапорцыя ў размеркаванні вынікаў працы, матэрыяльных сродкаў. Дастаткова сказаць, што інжынер з вышэйшай адукацыяй зарабляе ў 60 разоў больш, чым рабочы. А той па характару паслухмяны, вельмі пакорны, чаго не павінна быць. Нягледзячы на беднасць, заўжды ўсміхаецца, паказваючы... бяззубы рот. Сумна: такія маладыя, а ўжо без зубоў. Думаю, што можна гаварыць аб сацыяльным развіцці краіны, зазірнуўшы ў рот яе грамадзянам, вядома, тым, хто рукамі сваімі зарабляе на жыццё. Можа гэта не надта эстэтычна гучыць, але гэта — данасць.

Цікаўнасць пісьменніка і журналіста прывяла Алейшу Бялова ў творчую майстэрню народнага мастака СССР і старшыні прэзідыума Беларускага таварыства «Радзіма» М. Савіцкага. Міхаіл Андрэевіч падзяліўся з субяседнікам сваімі меркаваннямі наконт развіцця мастацтва ва ўмовах перабудовы, значэння эстэтычнага выхавання моладзі. Мастак паказаў свае новыя творы, сярод якіх серыя карцін аб чарнобыльскай аварыі.

— Серыя яшчэ не закончана. Я назваў яе «Чорная быль». Тое, што здарылася на Чарнобыльскай АЭС, — народная трагедыя, бо перш за ўсё закранае праблему існавання жывога на планеце, канкрэтных людзей. Гэта трагічны ўрок, з якога мы абавязаны зрабіць вывад.

А пасля размовы Алейшы Бялова ў Таварыстве «Радзіма» з пісьменнікам і вучоным Леанідам Казырам, я палічыў, што час падвесці вынікі.

— Ранавата яшчэ, — не згадзіўся Алейша. — пакуль што назапашваю матэрыял, пачакаю, каб ён як след «выспеў», а затым ужо возьмуся за аналіз. Пасля першага майго наведання СССР прайшло 2 гады. За гэты час намеціліся бачныя перамены — сведчанне перабудовы. Адзначу агульны настрой: дарогу новаму. Няма сумнення, што Беларусь за 70 гадоў Савецкай улады, як і ўвесь Савецкі Саюз, дасягнула каласальных поспехаў, з лапцюжнай ператварылася ў развітую. Я нідзе не бачыў жабракоў, дзяцей, якія корпаліся б у скрынях са смеццем, шукаючы ежу, як гэта часта здараецца ў нас, і бяззубых, прабачце. Але ёсць у вас нейкія «зрушэнні цэнтра цяжару», ці што. Мне гавораць, маўляў, у нас у Савецкім Саюзе аўтамашыны дарагія. Тут ёсць дакладная матывацыя: у вас аўтамабіль — не сродак перамяшчэння, а раскоша. Пры такой добрай рабоце разгалінаванай сеткі гарадскога транспарту некалькіх відаў на вуліцах таго ж Мінска, ён не надта і патрэбны. Іншая справа — тавары першай неабходнасці: абутак, адзенне, тое, што патрабуецца на кожны дзень. Я прыкмеціў, што ў гэтым ёсць дэфіцыт. Па майму разуменню, як мага хутчэй трэба выправіць такое парадаксальнае становішча. Парадаксальнае, таму што ў краіне ёсць магутная сыравінная база.

Вы ўзялі добры старт. Відаць, ёсць і будуць цяжкасці. Важна гаварыць пра іх праўду. Колькі я ні падарожнічаў, не сустракаў ідэальнага грамадскага ладу. Носьбітам перабудовы жадаю імкнуцца да гэтага.

**Канстанцін ШАЛЯСТОВІЧ.**

